

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 12 (599)** **2 КРАСАВІКА 2003 г.**

## ТБМ прапануе ўнесці змены ў Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"

Пасля моўнага рэферэндуму 1995 года дзяржава не зрабіла прыкметных захадаў па рэалізацыі выказаных грамадзянамі пажаданняў, галоўнае з якіх – забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай моваў у афіцыйным жыцці. Сёння няма аніводнай сферы, у якой была б такая роўнасць. Службовае справаводства дзяржаўнага апарату практычна цалкам вядзецца на рускай мове. Тое самае можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Вельмі незайздроснае становішча беларускай мовы на Беларускім радыё і тэлебачанні і зусім ніякае – у кінематографе. Пры гэтым на тэлеэкран і ў радыёэфір няма доступу шэрагу прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, вядомым беларускім пісьменнікам, мастакам, кінарэжысёрам і навукоўцам.

Колькасць вучняў у нашых школах, якія працягваюць вучыцца па-беларуску, скарацілася з 75% у 1994-95 навучальным годзе да 26,3%. Адпаведна падпіска на беларускамоўныя выданні зменшылася ў дзесяткі разоў, зведзена практычна да нуля. Ствараецца ўражанне, што дзяржава, з сваёй ці чужой волі, не дапускае роднага слова тытульнай нацыі краіны ў афіцыйнае жыццё.

Апошні раз сваю нязломную волю да выжывання беларуская мова яскрава засведчыла падчас апошняга перапісу насельніцтва Беларусі ў 1999 годзе, калі 86% жыхароў Беларусі афіцыйна засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску.

24 лютага па Другім беларускім канале ў праграме "Выбар" прагучала перадача, прысвечаная будучыні беларускай мовы. У тэлефонным галасаванні прыняло ўдзел каля 26 тысячаў гледачоў і 65% з іх выказаліся ў падтрымку яе развіцця. Гэта перадача яшчэ раз пацвердзіла вынікі перапісу і жаданне грамадзянаў Беларусі шырока карыстацца беларускай мовай як дзяржаўнай.

Таму ў адпаведнасці з часткай другой артыкула 44 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь" Сакратарыят ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" 12 сакавіка 2003 г. накіраваў свае прапановы пра змены ў Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сп. А. Вайтовічу, намесніку Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сп. У. Канаплёву, старшыні камісіі Палаты прадстаўнікоў І. Катлярову, а таксама ўсім дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, што з'яўляюцца сябрамі дэпутацкай групы "Рэспубліка", і прапанаваў унесці гэтыя змены на разгляд восеньскай сесіі беларускага заканадаўчага органа.

У падрыхтоўцы прапаноў удзельнічалі Генадзь Бураўкін, Лявон Баршчэўскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Кручкоў, Вячаслаў Рагойша, Язэп Стэпановіч, Алег Трусаў і Генадзь Цыхун. Змены, прапанаваныя ў Закон, дазволяць беларускамоўным грамадзянам вольна карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай ва ўсіх сферах жыцця. З прапановамі ТБМ можна азнаёміцца ў сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

***Сакратарыят ТБМ.***

## У Менску будзе вуліца імя Ф. Аляхновіча



МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
**УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ**
220006, г. Мінск, Маякоўскага 22, к. 2. Тэл.: 21-76-51

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
**УПРАВЛЕНИЕ КУЛЬТУРЫ**
220006, г. Минск, Маяковского 22, к. 2. Тел.: 21-76-51

№ 20/144 от 21.03.2003
на № 44 от 3.03.2003

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

Паведамляем, што пытанне аб ушанаванні ў назве адной з вуліц сталіцы імя беларускага драматурга і тэатральнага дзеяча **Францішка Аляхновіча** ўключана ў план работы камісіі па найменаванні вуліц і плошчаў г. Мінска.

**Начальнік упраўлення В. І. Кураш.**

## *Дзень Волі ў беларусаў і Беларусі*

## Святкаванне ўгодкаў БНР у Вільні

22 сакавіка Таварыства Беларускай Культуры ў Літве наладзіла ўрачыстае святкаванне 85-х угодкаў БНР у Вільні.

У мерапрыемстве бралі ўдзел беларусы Вільні, Коўні і Віленскага краю. З цікавымі дакладамі выступілі віленчукі і госці ТБК. Сярод выступаў варта адзначыць даклады Зянона Пазняка, Вітаўтаса Ландсбергіса (першага кіраўніка сённяшняй незалежнай Літвы), прафесара гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, сябра Рады ТБМ Аляксея Пяткевіча, старшыні ТБМ Алега Трусава, вядомага беларускага пісьменніка, сябра Рады ТБМ Уладзіміра Арлова. З цікавасцю выслухалі прысутныя і паведамленне Паўла Саўчанкі, прысвечанае ўзнікненню і развіццю беларускамоўнай адукацыі ў Вільні і Віленскім краі.

Сярод прысутных былі распаўсюджаны апошнія нумары выданняў ТБМ: газеты "Наша слова" і "Новы Час", а таксама каляндарыкі і значкі.

Вялікую цікавасць выклікала ў віленчукоў інфармацыя аб Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі ў Менску. Аб правядзенні і выніках сходу паведамілі прысутныя на імпрэзе дэлегаты і госці сходу з Менска, Горадні і Зэльвы.

Напрыканцы афіцыйнай часткі была прынята адозва, ў якой, між іншым, гаворыцца наступнае: "Мы заклікаем сумленных беларусаў Бацькаўшчыны і замежжа аддаць усе сілы і веды, каб абараніць незалежнасць Беларусі, і выказаць свой рашучы пратэст супроць этнацыду, знішчэння ўсяго беларускага, супроць масавага парушэння правоў чалавека рэжымам у Беларусі; быць вернымі ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі".

***Наш карэспандэнт.***

## 85-я ўгодкі БНР у Беларусі

Святкаванне 85-х угодкаў БНР ішло на фоне заснавання ідэалагічнай вертыкалі ў Беларусі.

Дзесяткі затрыманых. Арыштаваныя, асуджаныя, аштрафаваныя і пасаджаныя на розныя суткі арганізатары акцый.

Фактычна без перашкод прайшла толькі Навукова-гістарычная канферэнцыя 23 сакавіка і канцэрт 25 сакавіка. Астатнія спробы годна адсвяткаваць Дзень Волі былі сарваныя ўладамі.

На чым будзе грунтавацца ідэалагічная вертыкаль, здаецца, ясна.



**23 сакавіка. Святкавацць Дзень Волі спрабуюць сябры КХП БНФ.**



**23 сакавіка. Ніжняя прыступка ідэалагічнай вертыкалі.**




**22 сакавіка. Палац культуры "Сукно". Навукова-гістарычная канферэнцыя, прысвечаная 85-м угодкам БНР. Даклад Зянона Пазьняка зачытаў Валеры Буйвал.**



**25 сакавіка. Вінцук Вячорка і бард Зміцер Сідаровіч на плошчы Якуба Коласа. Неўзабаве Вінцук Вячорка будзе арыштаваны і асуджаны на 10 сутак.**





# Палявая пошта БНР

Прыняццем Акта 25 сакавіка 1918 года быў завершаны доўгі гістарычны шлях нашага народа да адраджэння беларускай дзяржаўнасці і дэмакратычных свабодаў. Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана незалежнаю і вольнаю еўрапейскаю дзяржаваю. Утварэнне незалежнай беларускай дзяржавы – БНР мела вялікае гістарычнае значэнне. І нягледзячы на тое, што наша незалежніцкая ўлада на доўгія гады была перапынена расейскім бальшавіцкім акупацыйным рэжымам, высакародныя ідэалы БНР ніколі не памiралі.

Негледзячы на неспрыяльныя ўмовы, звязаныя з нямецкай акупацыяй, Рада і Урад БНР адразу распачалі цяжкую і адказную працу – адбудову Бацькаўшчыны. Яны засяродзілі сваю ўвагу на арганізацыі беларускіх дзяржаўных інстытутаў па ўсім абшары БНР. Народны камісарыят прыняў пастанову пра дзяржаўны статус беларускай мовы. У якасці дзяржаўных былі ўзаконеныя бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.

Незалежнасць Беларусі прызналі Украіна, Чэхаславакія Аўстрыя, Фінляндыя, Польшча, Турцыя, Літва, Латвія, Эстонія, Арменія, Грузія. Былі зарганізаваны дыпламатычныя місіі, прадстаўніцтвы і консульствы ў Коўне, Берліне, Празе, Сафіі, Канстанцінопалі, Берне, Кіеве, Адэсе, Рызе.

19 студзеня 1920 г. шэф вайсковай дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўнік К. Езавітаў звярнуўся да Міністра скарбаў Латвіі з пісьмом (1 траўня), выконваючы просьбу камандавання Асобнага Атрада БНР.

***"Маркі мяркуецца выпусціць наміналам 5 кап., 10 кап., 15 кап., 50 кап. і 1 рубель, у колькасці 1.000.000 асобнікаў кожнай вартасці, усяго 5.000.000 марак. Паперы, гуміарабіку, фарбаў і іншага матэрыялу Асобны Атрад Беларускай Народнай Рэспублікі не мае і просіць адпусціць усё гэта з запасаў, што маюцца ў Латвіі. У мэтах удзешаўлення выдання Асобны Атрад БНР хацеў бы атрымаць па 500.000 асобнікаў кожнай вартасці марак не прарэзанымі па краях, а з іх палову (г.зн. 150.000 непрарэзаных) яшчэ і без гуміарабіку.***

***Узор маркі ўжо выкананы і будзе неадкладна здадзены ў экспедыцыю пасля атрымання Вашай любезнай згоды"***

У гэты час Асобны Атрад БНР пад камандаваннем Булак-Балаховіча знаходзіўся ў Марыенбургу і быў прыняты ў склад войска БНР (Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 325, воп.1, с. 46, стар. 20).

Асобны Атрад БНР быў складзены з беларусаў, якія не мелі магчымасці вярнуцца на радзіму, дзе панавалі то немцы, то палякі, то Чырвоная Армія. Атрад меў свой тыл з камендатурамі, прадуктовым забеспячэннем і палявой поштай. (НАРБ, ф32Б, воп. 1, с. 132, стар. 58).

14 лютага 1920 г. у вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Рызе атрымалі першую партыю: тысячу асоб. 15 капеечных марак Асобнага Атрада БНР.

15 лютага К. Езавітаў звярнуўся пісьмова да міністра транспарту Латвіі:

***"Асобны Атрад БНР у Эстоніі для патрэб гэтага атрада ўтварыў палявую паштовую кантору і выпусціў асобую марку атрада, якая будзе выкарыстоўвацца пры адпраўцы пісем атрада на радзіму і ў краіне размяшчэння атрада.***

***Уведамляючы Вас аб гэтым, пан міністр, прашу Вашага дазволу, каб лісты, аплачаныя той маркай, узор якой пры гэтым даецца, былі прыманыя і перасылаліся латвійскай дзяржаўнай поштай.***

***Што тычыцца палявой пошты Асобнага Атрада БНР, то яна з вялікай ахвотай на ўмовах узаемнасці будзе перасылаць паштовыя адпраўленні з паштовымі маркамі Латвійскай дзяржавы.***

***Шэф місіі К. Езавітаў"***

(НАРБ, ф. 325, воп. 1, с. 132, стар. 10)

На копіі гэтага ліста стаіць рэзалюцыя К. Езавітава, што дазвол атрыманы.

У той жа дзень па распараджэнні шэфа місіі 2 аркушы марак (224 шт.) былі перададзены ў канцылярыю місіі, 4 аркушы (448 шт.) падпаручніку Ю. Гладкаму даручана перадаць у Літву.

Далей маркі паступалі ў Вайскова-дыпламатычную місію з Экспедыцыі дзяржаўных папер Латвіі ў наступным парадку:

| Намінал, колер | | Наклад, дата | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 3,11 х 11,5 | з клеем | без клею |
| 5 кап., | св. зялёны | 520123 (23.03.20) | 249872 (23.03.30) | 252912 (16.03.20) |
| 10 кап., | чырвоны | 523483 (25.03.20) | 250320 (25.03.20) | 252912 (16.03.20) |
| 15 кап., | св. фіялетавы | 532139 (01.03.20) | 250000 (14.02.20) | 252912 (14.02.20) |
| 50 кап., | сіні | 519443 (25.03.20) | 248864 (25.03.20) | 252912 (16.03.20) |
| 1 руб., | св. карычневы | 520699 (25.03.20) | 249312 (25.03.20) | 252912 (16.03.20) |

Маркі 15 кап надрукаваны з клішэ АСОБНЫ АТРАД – тып ІІ, астатнія наміналы марак выкананы з клішэ І тыпу.

АСОБНЫ АТРАД Тып І.

АСОБНЫ АТРАД Тып ІІ.



Камплект беззубцовых марак Асобнага Атрада БНР, зацверджаны пячаткаю місіі.

Малюнак марак выкананы мастаком Рыхардам Зарыньшам. У якасці прататыпу выкарыстана гравюра У. дэ Гарнэка (Западная і южная Россия. Белорусское Полесье. Под абщ. Ред. П. П. Семенова т. 3, 4.2, С.-Петербург, Москва, 1882 г., стр. 255).



Малюнак на марцы Асобнага Атрада БНР.

Пасля атрымання ўсіх марак 29.03.1920 г. у экспедыцыі нарыхтовак дзяржаўных папер Латвіі ў прысутнасці прадстаўніка місіі Ю. Гладкага былі знішчаны літаграфічныя камяні, цынкавыя клішэ і арыгіналы друку марак Асобнага Атрада БНР, што зафіксавана Актам № 9, копія якога захавалася (НАРБ, ф. 325, воп. 1, с. 132. стар. 42).

У красавіку 1920 г. у Германіі і Латвіі ў продажы з'явілася вялікая колькасць фальсіфікатаў. Знайсці крыніцу фальсіфікацый місіі не ўдалося.

Для арганізацыі аддзела палявой пошты Асобнага Атрада БНР К. Езавітаў накіраваў з Рыгі ў Марыенбург у склад 1-й камісіі Асобнага Атрада БНР супрацоўніка місіі Д. Калоўбу. 28.03.1920 г. у Марыенбургу з'явілася паведамленне:

***"1-я Камісія Асобнага Атрада БНР паведамляе ўсім зацікаўленым асобам (раненым і знаходзячымся ў шпіталі дабраахвотнікам, пакалечаным, пайшоўшым у адстаўку па хваробе, жыхарам раёна размяшчэння атрада, якія маюць на руках неаплочаныя квітанцыі і інш.), што 28 сакавіка Камісія прыступіла да працы па прыёму заяў і просьбаў. Пры Камісіі адкрыта аддзяленне палявой пошты Асобнага Атрада БНР для прыёму лістоў на Радзіму. Лісты павінны быць аплочаны маркай Асобнага Атрада БНР.***

***Марыенбург, В. Азёрная, 2.***

***Старшыня Камісіі падпалкоўнік Мінгрэльскі".***

(НАРБ, ф. 325, воп. 1, с. 132, стар. 57).

Калі Эстонія заключыла мір з Савецкай Расеяй, Атрад перайшоў на тэрыторыю Беларусі, і яго палявая пошта была ліквідавана. Аб гэтым было паведамлена 15 красавіка 1920 г. (НАРБ, ф. 325, воп.1, с. 132, стар. 71).

На самой справе, як паведаміў у сваім лісце А. Ліўшыцу К. Езавітаў, апошнім днём функцыявання паштовай канторы Асобнага Атрада БНР у Марыенбургу было 22 красавіка 1920 г.

АБВЕСТКА.

Гэтым абвешчаецца, што 18 гэтага красавіка Аддзел Палевой Паштовай Канторы пры 1-шай Камісіі Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі зачыняецца і прыем каррэспандэнцыі спыняецца

Падпалкоунік Мінгрэльскі.

15 красавіка 1920 г. м. Марыэнбург.
Бл. Азорная № 2.

**АБВЕСТКА**
**Гэтым абвяшчаецца, што 18 гэтага красавіка Аддзел Палявой Паштовай Канторы пры 1-ай Камісіі Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі зачыняецца і прыём карэспандэнцыі спыняецца.**
**Падпалкоўнік Мінгрэльскі.**
**15 красавіка 1920 г., м. Марыенбург, Вл. Азёрная, № 2.**



**Фрагмент заказнога ліста з Лібавы (LEEPAIA) ад 16.03.1920 г. у Рыгу, аплачаны толькі маркамі Асобнага Атрада БНР. Гэта пацвярджае, што паштовае ведамства Латвіі дало дазвол выкарыстоўваць на сваёй тэрыторыі знакі паштовай аплаты Асобнага Атрада БНР.**

ПАЛЕВАЯ КАНТОРА 7-4-20 АСОБН. БЕЛАРУСК. АТРАДА

**У якасці штэмпеля гашэння марак выкарыстоўвалася круглая пячатка з тэкстам "ПАЛЕВАЯ КАНТОРА* АСОБН. БЕЛАРУСК. АТРАДА".**



**Ліст з датай гашэння "21.04.20."**

У сувязі з тым, што палявая пошта Атрада існавала меней месяца, паштовыя адпраўленні, аплочаныя яе маркамі, сустракаюцца вельмі рэдка. Захаваўся ліст з датай гашэння "21.04.20."

Пастановай Рады Народных Міністраў БНР ад 12.07.1920 г. паштовыя маркі Асобнага Атрада БНР і дакументацыю па іх вайскова-дыпламатычная камісія БНР у Латвіі і Эстоніі павінна была перадаць Міністэрству фінансаў БНР, што і было зроблена ў лістападзе 1920 г.

На аснове гэтага можна зрабіць высвову, што маркі "Асобны Атрад БНР" з'яўляюцца першым афіцыйным выпускам (а не прыватным) Беларускай Народнай Рэспублікі і іх неабходна ўключыць у каталогі, як афіцыйны выпуск.

Угодкі Акту 25 сакавіка 1918 г. сталі беларускім нацыянальным святам.

У Менску вулічныя святочныя мерапрыемствы на Дзень Волі пачалі праводзіцца БНФ ад 1990 г.

Не гледзячы на пераслед улады, беларусы святкуюць гэты дзень. Так мусіць быць і сёлета, і ва ўсе наступныя часы.

*Л. Карповіч.*

Выкарыстаны матэрыялы з арт. В. Батлеўскага "Маркі. Асобны Атрад БНР". *Филателия. №10, 2002 г. Расія.*

# ЖЫВАТВОРНАЕ СЛОВА – БІБЛІЯ

Значную і вялікую каштоўнасць для суладдзя зямной цывілізацыі нясе бессмяротнае Слова- Біблія, змест якой на пачатку трэцяга тысячагоддзя, бадай, ведаюць ва ўсіх куточках свету. Ніхто яшчэ так мудра не акрэсліў сэнс Слова, як любімы вучань Хрыста – Іаан Багаслоў: "В начале было Слова, и Слово было у Бога, и Слово было Бог" (Святое благовествование 1:1)

Але ж мы сведкі, як у савецкія гады ды ў наш час, навукоўцы гарэзна імкнуцца адасобіцца ад рэлігіі, нягледзячы што па слоўніку Ул. Даля яе сэнс мае... "сувязь паміж зямлёй і небам". Значыць, калі рэлігія валодае нейкай сувяззю з небам, то, выходзіць, вучоным варта свае погляды, меркаванні час ад часу суразмерваць з ёй. А вось цікавы артыкул "Парад прогнозов" у "Вечернем Минске" ад 12 ліпеня г. г. Канстанціна Сталярчука сведчыць, што вучоныя не надта абцяжарваючы сябе маральнай адказнасцю перад Богам ды чалавецтвам, бяруць разгон такі, які прывядзе да трагедыі на зямлі і на небе.

Возьмем да прыкладу іх меркаванне, што недзе ў 2047-2049 гадах вучоныя паспрыяюць таму, што ад іншапланецян кабеты родзяць "мешаных" дзяцей – гібрыдаў. Нездарма кажуць: "новае – гэта добра забытае старое", бо аналагічнае мела ўжо месца на Зямлі. Чытаем у Біблії: "В то время были на земле исполины, особенно же с того времени, как сыны Божии стали входить к дочерям человеческим, и они стали рожать им... (Бытие 6:4). Але ж у Біблії знаходзім і чым скончыліся гэтыя кантакты – патопам, які знішчыў усё жывое на зямлі акрамя Ноя і яшчэ васьмі душ. Калі маем такі жахлівы прыклад, то можам без усякіх іншых падстаў паставіць перад вучонымі наступнае пытанне. А чым яны ды нашчадкі нашы збіраюцца заплаціць ізноў за свае эксперыменты з іншапланецянамі?

Таксама з артыкула даведваемся, што ў мяркаваных 2095-2099 гадах вучоныя збіраюцца здзейсніць непасрэдны кантакт жывых з памерлымі, то тым самым ізноў пяройдуць рубеж Божага дазволу, паколькі ў старажытным Законе Майсея адшукаем забарону ўступаць у сувязь з памерлымі: "Не должен находиться у тебя проводящий сына своего или дочь свою через огонь, прорицатель, гадатель, ворожея, чародей, обаятель, вызывающий духов, волшебник і вопрошающий мертвых" (Второзаконие 18: 10-11). А хто ж нам, як не савецкія атэісты тлумілі галовы, што з фізічным адыходам з жыцця наступае канчатковы канец чалавека? А цяпер аказваецца вучоныя ломяць галаву, каб здзейсніць кантакты паміж жывымі і памерлымі! Надзвычай надзённа, што аказваецца самі заснаваль-нікі навуковага камунізму ведалі аб існаванні памер-лых недзе ў іншым вымярэнні бо, Ф. Энгельс асабіста прысутнічаў не раз на сеансах спірытаў у выніку чаго напісаў працу "В мире духов". Значыць, інерцыя навешаных поглядаў бязбожжа спрацоўвае безадказна, фантазія вучоных гарэзна пераступае рубеж недазволенага Богам кантакту паміж двума сусветамі.

А чым жа могуць скончыцца эксперыменты вучоных з вынаходствам кібергаў калі чалавечую галаву мяркуюць прышыць да штучнай постаці? Іх зусім не пужае, што адбудзецца нахабнае парушэнне гармоніі, суладдзя ў цэласнасці аўры чалавека. Навука зараз ведае аб ёй, а ў старажытнасці празорлівыя манахі і без усялякіх прыбораў бачылі аўру вакол галавы і пастаці чалавека, што дазваляла ім вызначыць стан здароўя і моц веры чалавека. Вось чаму зусім не выпадкова іканапісцы на абразах малявалі аўру жоўтага ці белага колеру вакол галавы святога. А калі ў перспектыве вучоныя мяркуюць адрэзаць галаву паміраючага чалавека і адправіць у космас, а постаць закапаць, то ў выніку адбудзецца разрыў цэласнасці аўры, якае мае дачыненне і да душы чалавека, як жывога, так і памерлага, што ізноў нейк адмоўна адаб'ецца на паралельным сусвеце.

Аб тым, што аўра дзейнічае і пасля смерці чалавека давялося мне пачуць у Маладзечанскім раёне ў час збору фальклору. Тут адна жанчына распавяла, як у іх вёсцы падчас пахавання маладая ўдава ўвесь час галасіла і ляжала на грудзях памерлага. Праз некаторы час нябожчык пачаў з'яўляцца. Выклікаў яе стукам у шыбу. Яны ўсю ноч сядзелі на лавачцы, размаўлялі, родныя іх гаворку чулі, але мужчыну не бачылі. Не дасыпаючы кожную ноч жанчына пачала худзець, губляць фізічную сілу. Значыць, душа памерлага вярталася туды, дзе засталіся яе часцінкі, ці, наадварот, часцінкі аўры кабеты прыляпіліся да нябожчыка, цягнулі яго да хаты. Насамрэч, зусім не выпадкова некалі Бог забараніў юдзеям дакранацца да нябожчыка, акрамя самых блізкіх родных. А што ж здарыцца з той чалавечай галавой, якую вучоныя закінуць у космас, постаць тут на зямлі закапаюць? Галава ж не толькі часцінка матэрыі, але і носьбіт розуму, і калі яна акажацца ў адным асяроддзі, а цела ў другім, то хіба ж душа змога цэласна існаваць у іншым свеце?

Мякка кажучы, для разваг верных людзей у гэтым артыкуле вельмі істотны момант наконт таго, што вучоныя прадбачаць як у 2026-3000 гадах павялічыцца рост псіхічных захворванняў. На думку расейскага доктара псіхолага А. Папова такое будзе выклікана памяншэннем азону ў атмасверы. А вось насуперак меркаванню вучоных словы Біблії падказваюць крыніцу растройства псіхікі ў іншым: "... вот, страх Господень есть истинная премудрость, и удаление от зла – разум" (Иов 28:28). То і наконт таго азону сэнс палягае ў тым, што за свае супрацьборства з Богам людзі парушаць псіхіку.

Чаму такую праблему я падымаю ў газеце "Наша слова"? Па-першае, гэты артыкул быў напісаны для дадатка "Вечернего Минска" – "Званіца", але пададзены на беларускай мове, там не спатрэбіўся. Падругое, як выбачыў Генадзь Бураўкін – мова гэта рабочы інструмент пісьменніка, а паколькі кожная мова нішто іншае, як "слова", то варта разумець носьбітамі слова не толькі пісьменнікаў, але і святароў, багасловаў. І як бы святары не былі заняты адбудовай святынь, знішчаных вайной ды ідэалогіяй ваяўнічага атэізму, але ўсё ж ім варта цясней падыходзіць да людзей, клапаціцца не толькі аб узнаўленні духу купкі сваіх прыхаджан, а шукаць сувязь з усёй грамадскасцю Беларусі цераз перыядычны друк. Гэта ж іх абавязак уздымаць рэлігію з небыцця, без якой у перспектыве, як то сведчыць артыкул "Парад прогнозов", нашы нашчадкі жывымі задыхнуцца на зямлі ад эксперыментаў бязбожнікаў. У рэшце рэшт стаўлю пытанне і перад рэдактарам "Наша слова". Хіба ж не магчыма даць пастаянную рубрыку казанням светароў, якія яны кажуць у сваіх святынях, афіцыйным дзяржаўным канфесіям: праваслаўным, католікам, юдзеям, мусульманам аб Слове Божым?

*Мария Жабінская.*

# Зімовыя мроі Алеся Мары

Пад гэтай назвай 1 лютага ў Палацы дзяцей і моладзі адбылася творчая сустрэча з вядомым беларускм мастаком і паэтам Аляксеем Марачкіным. Вечарыну распачаў творчы гурт "Пліса" пад кіраўніцтвам Кастуся Крашчанкі, які выканаў песню "Збірайся на вечар" на словы А. Марачкіна.

Агульны настрой быў зададзены паказам фрагменту з фільма "Мара", рэжысёрам якога з'яўляецца Уладзімір Арлоў. Сын А. Марачкіна Ігар з дазволу рэжысёра скампанаваў часткі фільма ў адно цэлае. У фільме расказваецца пра бацькоў мастака, яго дзеда, пра родную вёску Патоўшчына, дзе прайшло дзяцінства гэтага таленавітага чалавека.

Пасля прагляду Марачкін прадставіў увазе глядачоў свой новы альбом – аўтаманаграфію. У пачатку свайго выступлення мастак прызнаўся, што "на сцэне адчувае сябе ніякавата".

У "Альбоме" змешчаны рэпрадукцыі карцін, вершы, дзённікавыя запісы, творы сына. Па словах самого Марачкіна – гэта сямейны альбом. Але сям'я яго шырэйшая, бо гэта не толькі яго родныя, але і тыя, хто хадзіў з ім у школу, хто ўплываў на яго жыццё і творчасць.

Мастакі не толькі малююць, але і пішуць вершы. А. Марачкін – гэта адметны, самабытны паэт-філосаф. "Я і дасюль адчуваю сябе няёмка пры пісьменніках", - кажа мастак. А вершы яго даюць адказы на самыя балючыя надзённыя пытанні.

У вечарыне бралі ўдзел сябры мастака. Першым выступіў рэдактар аўтаманаграфіі Міхась Скобла. Ён сказаў, што адчувае сябе вельмі шчаслівым, бо працаваў "Альбом" першым, і назваў яго "сплавам паэзіі і жывапісу".

Сапраўдным сюрпрызам для гледачоў з'явілася выкананне Марачкіным старажытнай беларускай балады. Дапамагаў яму ў гэтым гурт "Ліцьвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Барберава. Прышоў павіншаваць мастака і яго даўні сябар, паэт і перакладчык Сяргей Панізьнік. На вечарыне прысутнічаў малады музыка, бард, рок-музыкант Зміцер Сідаровіч. Ён падараваў Марачкіну сваю песню, якую дапісаў ужо, седзячы ў зале.

Творчая вечарына з А. Марачкіным была вельмі насычанай і цікавай, пакінула ў гледачоў незабыўнае ўражанне.

*Вікторыя Бутурля,*
*навучэнка ШДПК №1.*

# Экспрэс у няведамае...

Дарагі адданы "Нашаму слову" чытач! Газета не раз паведамляла пра чынны ўдзел нашай грамадскай арганізацыі ў міжнародным сімпозіюме "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", які адбыўся ў Менску 9- 10 ліпеня пад эгідай ЮНЕСКА.

Нагадаем, што ў рамках гэтага важнага мерапрыемства нам дасталася нялёгкая ношка па падрыхтоўцы і правядзенні трох "круглых сталоў": "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу", "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар", "Мова і адукацыя. Падручнікі, методыкі і дапаможнікі", адказнымі за правядзенне якіх былі Алена Анісім, Сяргей Кручкоў і Людміла Дзіцэвіч адпаведна. Яны паказалі не толькі свае выключныя арганізатарскія здольнасці, але і выступілі з цікавымі і змястоўнымі дакладамі, якія прагучалі ў рабоце секцый. Падчас жа пленарнага паседжання выступіў старшыня Таварыства Алег Трусаў.

Сёння мы з прыемнасцю можам сказаць, што сваё лагічнае завяршэнне Міжнародны сімпозіюм атрымаў у кнігах, якія пабачылі свет ў друкарні УП "Ходр", і на якіх, у шэрагу іншых, стаіць грыф Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Вынікі працы гэтага форуму абагульнены ў дзвюх кнігах, якія маюць назоў, адпаведны назову сімпозіюма. У гэтыя выданні ўвайшлі даклады і паведамленні, матэрыялы пленарных паседжанняў і шэрагу "круглых столоў", а таксама заключаны дакумент – "Высновы і рэкамендацыі Міжнароднага сімпозіюма". Згадаем тэмы дакладаў, з якімі выступілі ўдзельнікі ТБМ: Алег Трусаў "Заканадаўчы аспект развіцця беларускай мовы падчас глабалізацыі", Людміла Дзіцэвіч "Мова, адукацыя і час". Тэму "Тэхналогія беларускасці ў Беларусі" асвятлялі Сяргей Кручкоў і Алена Анісім. Усе гэтыя даклады змешчаны ў першай кнізе выдання на англійскай мове. Да кожнага – даецца рэзюме па-беларуску.

Асобнай кнігай выйшлі з друку матэрыялы "круглага стала" на тэму "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар". І гэта невыпадкова, бо праблема выкарыстання беларускай мовы ў кампутарнай сферы нашай краіны надзвычай актуальная. Ад вырашэння гэтай праблемы ў многім залежыць далейшы лёс роднага слова. Складальнік гэтай кнігі, арганізатар "круглага стала" Сяргей Кручкоў сабраў пад адной вокладкай усе выступленні ўдзельнікаў, рэзалюцыю і перапіску па выніках

БЕЛАРУСКАЯ МОВА. ІНТЭРНЕТ І КАМП'ЮТЭР

Матэрыялы «круглага стала» міжнароднага сімпозіума «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі»

Мінск, 20 мая 2002 г.

мерапрыемства. Варта адзначыць, што сярод дакладчыкаў, акрамя Кручкова, - сябры Таварыства Уладзімір Вераб'ёў і Уладзімір Кошчанка.

Новыя выданні – важкі набытак Таварыства беларускай мовы напачатку 2003 года.

*І. Ляксеева.*

# Абрабавана сядзіба ТБМ

***У ноч з 29 на 30 красавіка абрабавана сядзіба ТБМ у Менску. Зламыснікі скралі начынне аднаго з кампутараў, на якім знаходзіўся зверстаны чарговы нумар "Новага Часу", прысвечаны Ўсебеларускаму сходу інтэлігенцыі.***

## Удакладненні

У мінулым нумары газеты Старшыня Сюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч названы членам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Нажаль, ён пакуль не дэпутат, але будзем спадзявацца, што яго дэпутацтва наперадзе.

Было таксама дапушчана скажэнне прозвішча Алеся Аркуша, за што рэдакцыя прыносіць свае прабачэнні.

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Лeнінская, 23.
Газета падпісана да друку 31. 03. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 1109
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)